


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (1161) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 28 МАЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


## А памяць жыве...

На ўзгорку за Мілейчыцамі знаходзіцца могільнік-маўзалей, дзе пахаваны астанкі савецкіх воінаў, баявы шлях якіх абарваўся на зямлі Мілейчыцкай гміны і яе ваколіцы.

Звычайна над супольнымі салдацкімі магіламі царыць цішыня. І толькі два разы ў год: у Дзень перамогі і ў гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі прыходзяць сюды людзі, каб праявіць пачуцці ўдзячнасці сваім вызваліцелям, каб прадэманстраваць непарушную дружбу з Краінай Саветаў, каб выказаць рашучы пратэст супраць прыхільнікаў гонкі ўзбраення і апосталаў атамнай ваеннай завірухі.

У Мілейчыцах гэта ўжо народная традыцыя, гэта свята, на якое просяць гасцей.

Тым разам мілейчукі адзначалі Дзень перамогі ў нядзелю, 8 мая. Дзень быў халодны, імжыў дождж, дуў парывісты вецер. Нягледзячы на ўсё гэта, сабраўся шматлюдны мітынг дружбы і пратэсту. Прыехалі дэлегацыі ад Нурэцкай, Чаромхаўскай, Арлянскай і Мельніцкай гмін. Калектыў дэлегатуры нафтаправоду „Дружба“ прадстаўляў **Міхаіл Чыстаў.** Ад імя Савецкай Арміі выступаў капітан **Генадзь Казарэз.** Была дэлегацыя Войска Польскага. Давялося бачыць нават землякоў, якія пастаянна пражываюць у Беластоку і ў іншых далёкіх гарадах. Што ж, свята, ды яшчэ свабодныя дні ад прафесіянальных заняткаў.

Пад гукі аркестра, са сцягамі і лозунгамі супроць вайны, супроць нейтроннай бомбы, за мір і дружбу ўсе мы разам накіраваліся ад гміннага ўпраўлення на могільнік-маўзалей, дзе на ветры віліся чырвоныя і бела-чырвоныя сцягі, а з рэпрадуктараў разносіліся гукі вайсковых маршаў і песень, быццам бы клікалі яны паўшых салдат на ўрачыстую пераклічку. Наперадзе ішлі ветэраны другой сусветнай вайны. Сцяг збавідаўскай арганізацыі горда трымаў у руках **Мікалай Турык** з вёскі Навасёлкі, які свой баявы шлях распачаў ад першых дзён Айчыннай вайны ў другім танкавым палку пад Мурманскам, дзе за праяўленую адвагу і баявыя дзеянні ўзнагародзілі яго Ордэнам Чырвонай Зоркі. Закончыў свой баявы шлях аж у Балгарыі, у саставе 92 чырвонасцяжнага гвардыйскага палка.

Побач яго таксама даўнейшы чырвонаармеец з грудзьмі ў ардэнах — **Зіновій Тынкевіч,** які ў баях дайшоў да Эльбы.

(Працяг на стар. 4)



*Могільнік-маўзалей у Мілейчыцах.*




### КАЛІ ГАВОРАЦЬ ПРА ВАЙНУ...

У кожнае сасны
баравікоў —
Як прад вайной
сыноў у мацярок,
І памяць —
звон маланкавых падкоў,
І цішыня —
узведзены курок.
Нясу па баравінах, па імшках
І радасць і трывогу за сяйво:
Сядзяць прыгажуны — на
паўгаршка! —
У лістападзе,
быццам у жніво.
О шчодрасць неабдумная,
няўжо
Вяшчуеш ты
бясплённасці бяду?..
...Глядзіць сумненне хітранькім
вужом,
А ўсцяж
падлескі молада гудуць.

**Васіль Зуёнак**

*Не пачынайся, дзень, з грымот,*
*А пачынайся светла, дзіўна.*
*Няхай святочны час радзінаў*
*Адзначыць сонца ясны ўсход.*

*На свеце болей дабрыні*
*І болей стане захаплення, —*
*А ў сэрцы творчага натхнення*
*Не ўтаймаваць, не супыніць...*

*І думак сонечных палёт*
*Не будзе мець ні меж, ні краю...*
*Усёй істотай заклінаю —*
*Не пачынайся, дзень, з грымот!*

**Кастусь Жук**

* * *

Мы з мацярынскім малаком нібыта
Ўвабралі боль свяшчэнны на вякі:
У хлопчыкаў ля помнікаў забітым
Сціскаюцца, бялеюць кулачкі.

І праз слату, і праз сівую замець,
Праз свят і будняў нясканчоны рад,
Не гаснучы перадаецца памяць
Былой вайны ахвяраў і салдат.
Надыдзе час — не стане ветэранаў,
Ды подзвіг іх не сыдзе ў небыццё,
Бо імі ў лютай бойцы ўратавана
Настаўнікаў бясконцае жыццё.

* * *

*Побліз лесу, дзе плынь прахалоды*
*Між густых нараджаецца крон,*
*Ледзь заўважыш забытага дота*
*Сярод кветак шурпаты бетон.*
*Восы з нудным пікіруюць звонам.*
*А каля замшэлых байніц*
*Жывакост, нібы жмені патронаў,*
*І чырвоныя краплі суніц.*

**Фелікс Баторын**

## Шанц для адважных

Эдмунд Ракульскі, селянін з вёскі Длугалэнка ў гміне Крыпна, 18 гадоў працаваў на чыгунцы ў Беластоку. Невялікую гаспадарку абрабляла жонка ды ён сам, калі адпачываў пасля дзяжурства. І раптам Эдмунд Ракульскі перастаў хадзіць на чыгунку. Не ўсе яго аднавяскоўцы хацелі паверыць, што ён па ўласнаму жаданню распрашчаўся з пастаяннай штомесячнай зарплатай, якая пасля доўгай працавітай службы даходзіла ўжо да 5 тысяч злотых. „Што ты робіш?! — гаварылі сябры. — Здурэў, ці што?“

А Эдмунд Ракульскі дамовіўся з Юзэфам Паплаўскім і Леанам Качынскім заснаваць суполку аднаасобных гаспадароў, значыць САГ.

— Я люблю працу ў полі, — кажа ён. — Люблю хадзіць за плугам, сеяць збожжа, касіць траву, даглядаць жывіну...

І гэта перамагло. Не пабаяўся ён, што апрача пастаяннай зарплаты траціць бясплатныя праезды на цягніках па ўсёй краіне і шматгадовы стаж працы, ад якога залежыць працягласць водпуску і старэчая пенсія.

У студзені 1976 года іх САГ запісалі ў гмінны рэестр, а праз некалькі месяцаў пачалася пабудова супольнай тучарні на 320 штук свіней.

— Сваіх грошай, — паясняе Леан Качынскі, які з'яўляецца ўпаўнаважаным ад іхняй суполкі, — мы не мелі. Пабудову фінансаваў банк спажывецкай гаспадаркі, які расклаў нам сплату пазыкі на 30 гадоў.

У чэрвені наступнага года будынак быў ужо гатовы. Распачалася прадукцыя. Цяпер на адкорме знаходзіцца ў іх 360 парсюкоў. Гэта прыблізна, бо лік іх пастаянна мяняецца: адных здаюць, другіх ставяць на адкорм.

— Амаль штомесяц, — кажа Эдмунд Ракульскі, — прыязджаюць да нас грузавікі за нашым жывым таварам. У год дастаўляем каля тысячы штук кормнікаў-беконаў.

Уявіце сабе: тры гаспадары і амаль тысяча кормнікаў у год. Апрача гэтага ў іх свае поўнавартасныя гаспадаркі.

— Як вы спраўляецеся з усім гэтым? — пытаю з недаверам, але Эдмунд Ракульскі спакойна паясняе:

— Звычайна. Каб абслужыць супольны свінарнік, трэба нам траім патраціць у дзень па дзветры гадзіны часу. Тут усё механізавана. Падлогу пачысціў і змыў, корм развёз і вяртайся дамоў.

— А як вы, — цікаўлюся, — дзеліце даход? Ці запісваеце, колькі хто калі працаваў, ці нейкія іншыя нормы вы сабе ўстанавілі?

— Ніякіх нормаў працы мы не ўстанаўлівалі, бо яны нам непатрэбныя. Ці гаспадар лічыць сваю працу на нормы? Вось таксама і мы. Працуем супольна.

— Не хацелі б вярнуцца назад на чыгунку?

— Што вы! — усклікае даўнейшы чыгуначнік.

І гэта зразумела. Цяпер ён зарабляе больш у тыдзень, чымсьці ў месяц на чыгунцы. Толькі гэта заробак для адважных. Даступны ён кожнаму, хто ўмее кіраваць уласным лёсам. Вось іншыя прыклады.

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

*Калектыў з Вітава. III месца на фінальным аглядзе (катэгорыя фальклорнай песні).*

*Фота М. Шаховіча*

 




### ТРАГІЧНАЯ РАМАНТЫКА

Маладыя жыхары ФРГ — 20-гадовы Іоахім Блоем і 19-гадовая яго нявеста Сільвія Елфлей вельмі рана сутыкнуліся з непрыемнымі з'явамі жыцця. Матэрыяльная нястача з самага пачатку азмрочыла іх узнёслыя планы стварэння шчаслівай сям'і. Беспаспяхова шукаючы работу і бачачы крушэнне сваіх рамантычных надзей і летуценняў, яны імкнуліся пашукаць рамантыку дзе-небудзь у далечы ад радзімы, якая столькі прыносіць гора людзям. Урэшце рэшт месцам будучага жыхарства маладыя людзі абралі невялікі востраў на паўднёвым захадзе ад Цэйлона. Саскрабаўшы сякія-такія грошы на праезд, яны даплылі да вострава на параходзе, хутка знайшлі агульную мову з мясцовымі туземнымі старажыламі і пачалі амаль першабытнае жыццё. А яно аказалася не салодкім, хаця дзякуючы цёпламу спрыяльнаму клімату тут не трэба было клапаціцца пра дарагое моднае адзенне, не спатрэбіліся звычайныя расходы на транспарт і ацяпленне жылля — на працягу ўсяго года можна жыць у нятопленым шалашы. Вырошчваць рыс і іншыя расліны на харчаванне трэба было самым прымітыўным спосабам, што патрабавала немалых фізічных і маральных сіл.

Першай такое жыццё далёкіх продкаў надакучыла Сільвіі. Яна ўсё больш узнімала пытанне аб вяртанні ў горад. Усё часцей у шалашы маладажонаў мясцовыя абарыгены назіралі і чулі спрэчкі, сваркі і бойкі. Аднойчы Іоахім, захварэўшы на ліхаманку, з высокай тэмпературай, не стрымаўся і, не памятаючы сябе, ударыў маладую жонку нажом. Яна адразу ж памерла. Калі ён ачнуўся, то і сам не мог зразумець, як гэта ўсё здарылася. Судзілі яго спачатку па мясцовых традыцыях і звычках. Прысудзілі да аддалення ад свайго першабытнага грамадства і вывезлі на адзін са скалістых суседніх астравоў, дзе ён стаў жыць, як легендарны Рабінзон Круза, з невялікім запасам рысу і яшчэ некаторымі сродкамі і прыладамі для жыцця. У сваю Германію ён не можа вярнуцца, таму што там яму вынесены больш суровы, смяротны прыгавор праз павешанне. Вось і мусіць Іоахім Блоем сапраўды здзічэць у адзіноцтве. Альбо такое жыццё, альбо смерць. Іншага выйсця няма.

Так трагічна скончыліся рамантычныя мары двух маладых людзей з Заходняй Германіі, якія спачатку сумленна і прыгожа пачалі сумеснае жыццё і хацелі толькі работы і сямейнага шчасця.

### НА ПАЖАРАХ ГРЭЮЦЬ РУКІ

У Злучаных Штатах Амерыкі бурна развіваецца новы від нажывы — падпальванне жылых дамоў. У многіх выпадках падпальванне дамоў робіцца для таго, каб атрымаць страхавую прэмію ці падатковыя прывілеі. А яшчэ злачынцы падпальваюць жылыя дамы і ў пажарнай мітусні займаюцца рабаўніцтвам і забойствам. Як сведчыць статыстыка, пры такіх пажарах штогод гіне тысяча чалавек.

Прага да нажывы ў капіталістычным грамадстве не мае межаў. Розныя дзялкі нават на пажарах грэюць рукі.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**200 гадоў назад**

30 V 1778 пам. Вальтэр, французскі пісьменнік, філосаф, гісторык, адзін з прадстаўнікоў французскага Асветніцтва.

**135 гадоў назад**

3 VI 1843 нар. К. Ціміразеў, рускі вучоны ў галіне батанікі і фізіялогіі раслін, дарвініст, заснавальнік рускай школы фізіёлагаў раслін,

**60 гадоў назад**

30 V 1918 пам. Г. Пляханаў, дзеяч рускага і міжнароднага рабочага руху, адзін з пачынальнікаў навуковага сацыялізму ў Расіі і заснавальнікаў рускай сацыял-дэмакратыі.





Беластоцкае паліграфічнае прадпрыемства. У ім паўстаюць „Газета вспулчэсна“, „Ніва“, „Кантрасты“, „Аўшра“, кніжныя выданні на польскай, рускай, беларускай, англійскай, нямецкай і іншых мовах. Фота М. Гайдука.

## Пытанні па літаратуры на вусны экзамен для кандыдатаў на Беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта

1. Агульная характарыстыка фальклору.
2. Перыядызацыя гісторыі беларускай літаратуры.
3. Характарыстыка літаратуры Кіеўскай Русі.
4. Жанры і віды літаратуры ў Вялікім Княстве Літоўскім.
5. Агульны агляд беларускай літаратуры XIX стагоддзя.
6. Ананімныя паэмы „Энеіда навыварат“ і „Тарас на Парнасе“.
7. Характарыстыка жыцця, дзейнасці і творчасці Яна Чачота.
8. Біяграфія В. Дуніна-Марцінкевіча.
9. Дарэформенны перыяд у творчасці Дуніна-Марцінкевіча.
10. Пасляэформенны перыяд у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча.
11. Жыццё і творчасць Янкі Лучыны
12. Жыццё і публіцыстыка К. Каліноўскага.
13. Біяграфія Багушэвіча.
14. Ідэя абароны селяніна ў паэзіі Багушэвіча.
15. Карціна беларускай вёскі ў паэзіі Багушэвіча.
16. Характарыстыка літаратуры перыяду „Нашай нівы“.
17. Жыццё і творчасць М. Багдановіча.
18. Галоўныя тэмы і праблемы ў паэзіі Багдановіча.
19. Жыццё і творчасць З. Бядулі.
20. Біяграфія Я. Коласа.
21. Дакастрычніцкая проза Я. Коласа.
22. Характарыстыка „Новай зямлі“ Я. Коласа.
23. Характарыстыка „Сымона-музыкі“ Я. Коласа.
24. Паслярэвалюцыйная творчасць Я. Коласа.
25. Біяграфія Я. Купалы.
26. Галоўныя ідэі ў паэзіі Я. Купалы дакастрычніцкага перыяду.
27. Рамантычныя паэмы Я. Купалы: „Магіла льва“, „Бандароўна“, „Курган“.
28. Драматургія Я. Купалы.
29. Творчасць Я. Купалы савецкага перыяду.
30. Значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі ў жыцці беларускага народа і развіцці яго літаратуры.
31. Літаратурныя беларускія арганізацыі ў гадах 1929-1934.
32. Характарыстыка творчасці М. Лынькова.
33. Дзеці і школа ў трылогіі Я. Коласа „На ростанях“.
34. Моладзь у аповесці Коласа „На прасторах жыцця“.
35. Жыццё і творчасць К. Крапівы.
36. Характарыстыка адной з п'ес К. Крапівы.
37. Тэма вайны ў беларускай пасляваеннай літаратуры.
38. Аналіз адной з аповесцей В. Быкава.
39. Жыццё і творчасць І. Шамякіна.
40. Характарыстыка аднаго з раманаў І Шамякіна.
41. Жыццё і творчасць І. Мележа.
42. Жыццё і творчасць М. Танка.
43. Ідэі польска-беларускай дружбы і супрацоўніцтва ў савецкай літаратуры або публіцыстыцы.
44. Характарыстыка беларускіх сучасных літаратурных часопісаў.

## ХРОНІКА

■ 7 V — Гмінная ўправа Мілейчыц супольна з гуртком БГКТ арганізавалі фэстын, прысвечаны Дню перамогі. Пасля афіцыйнай часткі адбылася частка артыстычная, у якой прымалі ўдзел нашыя аматарскія калектывы з Бельска Падляшскага. Выступаў харавы калектыў „Васілёчкі“ і 2 калектывы з белліцэя: вакальны — „Ноткі“ і танцавальная група.

■ 10-11 V — М. Шаховіч і Я. Целушэцкі правялі некалькі сустрэч на Гайнаўшчыне. 10 V М. Шаховіч сустрэўся з вучнямі школы ў Ляшуках і жыхарамі вёскі Лука, а Я. Целушэцкі гасціў у школе ў Семяноўцы. 11 V — у школе ў Ляўкове быў М. Шаховіч, а Я. Целушэцкі наведаў клуб у Луцэ.

■ 10 V — адбылося спатканне інспектараў БГКТ з гуртком БГКТ у Аўгустове. Мэтай спаткання была актывізацыя гуртка. А. Л.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ГАЗ ІДЗЕ Ў ВЁСКУ

Прыродны газ прыйшоў у вёску Малеч Бярозаўскага раёна. Газіфікавана больш чым 200 кватэр. На таннае паліва пераведзена цэнтральная кацельня, якая забяспечвае цяплом жылыя і культурна-бытавыя будынкі, вытворчыя памяшканні. Ад Малецкай газаразмеркавальнай станцыі прыродны газ атрымаюць таксама саўгасы „Прагрэс“ Бярозаўскага і „Дружба“ Кобрынскага раёнаў.

Цяпер газавым палівам карыстаюцца 42 працэнты сельскага насельніцтва Брэсцкай вобласці.

У радзе гаспадарак газ выкарыстоўваецца для абагравання жывёлагадоўчых фермаў, птушкафермаў, у кормапрыгатавальных цэхах, рамонтных майстэрнях.

У гэтай пяцігодцы на Брэстчыне намечана газіфікаваць яшчэ 100 тысяч кватэр.

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Пашыраны выпуск „Літаратурнай старонкі“. Між іншым, анкета „Што вы лічыце найбольш каштоўным у нашым літаратурным руху?“, сяброўскія шаржы, „Палоска дзядзькі Кваса“, малы тлумачальны слоўнік „белавежцаў“ ● Боцькі ● Пра фэстын, якога не было ● Весткі з Гайнаўкі, Нараўкі, Альхоўкі, Дубіч Царкоўных, Бельска, Белавежы, Цялушак ● Як стаць „выдатным“, „вядомым“, „папулярным“ пісьменнікам (сакрэтнае!)**




**Sobota 27 V** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Mat. 10.00 Dla kl. VII Zool. 11.05 Dla kl. VIII Geogr. 12.40 RTSS. J. pol. 13.10 Mat. 13.40 Red. szk. zap. 13.50 Pr. dnia. 13.55 Radzimy rol. 14.05 Ze strażackiej kroniki — film dok. 14.30 STUDIO 8.

**Niedziela 28 V** — 6.25 RTSS. J. pol. 6.55 Mat. 7.25 Nasze spotk. 7.45 Now. w polu i w zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Pr. muz. 11.45 Dziennik. 12.00 Rol. rozmowy. 12.30 Radar. 12.45 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 29 V** — 12.45 RTSS. Fiz. 13.25 TTR. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT. Ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.15 Klub kibica. 17.40 Dom i my. 18.00 Nasi kochani bliźni. Odc. 2 „Urodzeni w niedzielę” — film TV NRD. 20.30 Teatr TV na świecie. „Książę Homburg” Henryka Kleista. 23.00 Dziennik. 23.15 Sport.

**Wtorek 30 V** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 TTR. 12.45 RTSS. Chem. 13.15 Pr. dla szkół. 13.45 RTSS. Wskaz. met. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Tel. klub seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Tel. Młodych. 17.10 Zgadnij kim jestem. 17.50 Radzimy rol. 18.00 Sport. 18.30 Człowiek i przyroda. „Wojowniczy mieszkaniec leśnej gęstwiny” film dok. 20.30 Saga roku Palliserów. 21.25 Śledztwo zostało wznowione. 21.55 Dziennik. 22.10 Sport.

**Środa 31 V** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 RTSS. Wskaz. met. 10.00 Hist. 12.00 Wych. muz. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 RTSS. Hist. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.25 NURT. Ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.00 Spoza gór i rzek. 17.30 Los. małego lot. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.05 Studio Mundial-78. 18.45 Między nami jaskiniowcami — film anim. 20.30 Kino interesujących filmów. „Czyż nie dobija się koni” — film fab. USA. 22.35 Dziennik. 22.50 Proscenium.

**Czwartek 1 VI** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 RTSS. Hist. 11.25 Decyzje piętnastolat. 12.55 J. pol. 13.25 RTSS. Mat. 13.55 RTSS. Fiz. 14.45 Pr. dnia. 14.50 Radzimy rol. 15.00 Melodie. 15.30 Kto czyta nie błądzi. 16.00 Dziennik. 16.30 „Życzymy Wam...” pr. z ok. Święta Dziecka. 17.50 Poligon. 18.10 Dobranoc. 18.50 Sport. 22.00 „Sierżant Anderson” film krym. USA. 22.50 Dziennik. 23.05 Pegaz. 23.50 Sport.

**Piątek 2 VI** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 RTSS. Fiz. 9.30 Sport. 11.05 Dla szkół. Wych. tech. 12.45 TTR. 13.25 TTR. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT. Ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Klub dobrej roboty. 17.55 „Kryptonim Stella” odc. ser. bułg. 18.40 Magazyn motor. 20.30 „Wsteczny bieg” film TP. 21.40 Sport. 23.40 Dziennik. 23.55 Sport. 2.00 Zakończenie pr.




**Piątek 26 V** — 8.25 Film fab. I cz. 18.55 II cz. 20.30 Koncert. 21.15 Balet.

**Sobota 27 V** — 14.10 Film fab. 17.15 Film anim. 18.25 Film fab. 20.30 Pr. rozr.

**Niedziela 28 V** — 7.55 Koncert. 10.00 Film fab. 13.00 Spektakl. 15.30 Panorama międzynar. 17.25 Klub film. 18.30 Film fab.




Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Szacowni nieboszczycy — wł. 30—31 V. Wspomnienie — buł. 1—2 VI. No i co doktorku — USA 3—4 VI.

**Bielsk Pod.** Ofiara namiętności — hisz. 29—31 V. Gang Olsena — duń. 1—2 VI. Port lotniczy — USA 3—4 VI.

**Czeremcha** Stara strzelba — fr. 30—31 V. Klatka — fr. 3—4 VI.

**Czyże** Wielka podróż Bolka i Lolka — pol. 31 V—4 VI.

**Dubicze Cerk.** Piraci na Pacyfiku — rum. Skarb na wyspie — rum. 31 V—4 VI.

**Gródek** Szacowni nieboszczycy — wł. 3—4 VI,

**Hajnówka** Ocalona — NRD 1—2 V. Każdy ma swoje piekło — fr. 3—4 VI.

**Michałowo** Policja dziękuje — wł. 30—31 V. Dzień delfina — USA 1—2 VI. Zdjęcia próbne — pol. 3—4 VI.

**Mielnik** Szarada — pol. 31 V. Halo taxi — NRD 3—4 VI.

**Milejczyce** Szczególny dzień — wł. Koncert na patelnię i orkiestrę — NRD 31 V—4 VI.

**Narew** Pani Bovary — to ja — pol. Pocztówka z polnymi kwiatami — rum. 31 V—4 VI.

**Narewka** Święto dzikich zwierząt — fr. Wniebowstąpienie — radz. 31 V—4 VI.

**Nurzec** Mężczyzni w krótkich spodenkach — węg. 1—2 VI. Pasja — pol. 3—4 VI.

**Orla** Skazany — pol. Wielki łup gangu Olsena — duń. 31 V—4 VI.

**Rajsk** Krótki sezon — wł. Robert i jego małpka — czes. 31 V—4 VI.

B.Z.Graf. Zam. nr 1200 7.600 egz. N-4

 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# СВЕТ, МАЛЯВАНЫ СМУТКАМ

Разнастайнымі і дзіўнымі бываюць шляхі тварэння...“ — заўважыў ва ўступным слове да вершаў Надзеі Артымовіч яе першы „выдавец“ і „адкрывальнік“ Юры Туронак. Гэта тым больш варта ўвагі, што ў паэзіі Артымовіч ад часу яе дэбюту ў друку наступілі такія грунтоўныя змены, якія патрабуюць прасачыць гэты шлях паэтычных змаганняў. Зборнічак, які паявіўся ў пяці экземплярах, надрукаваных на шклографе, змяшчае ў сабе вершы самыя раннія, натхнёныя вясковым пейзажам, дыханнем сяла, яго вераванняў і прадстаўленняў аб свеце. *„Ой, ляцелі гусі...“* — гэта верш, пранікнуты тхненнем народнай песні, у якой пад выглядам прагі адарвацца ад зямлі скрываецца міф пра Ікара або імклівага Пегаза — усё з думкай апанаваць прасторай. Намаганне адарвацца ад штодзённасці і акунуцца ў прасторы казачнай гульні — гэта для паэтэсы асноўнае, яму падпарадкаваны ўсе іншыя паэтычныя вобразы. Паэтычная абрэвіятура, мінімалізацыя ахоўвае гэтую паэзію ад банальнага апісальніцтва. У вершы *„Лясны канцэрт“* паэтэса піша:

*На зялёную сцэну*
*Уваходзіць барабан.*
*Першыя кроплі дажджу.*
*Ідзе бура...*

і гэтым самым не замыкае вобраза, не стварае выразных кампазіцыйных рамак, бо, паводле паэтэсы, кожны павінен заўважаць паэзію ва ўсім, што яго акружае, асабліва ж у таямніцы дрэва-жыцця, прыроды, нераздзельна звязанай з чалавекам, і гэтым самым гуманізаваць навакольнае асяроддзе. У ранніх вершах Артымовіч такі акружаючы чалавека знешні лад, здаецца трывалым, непарушным, а пытанні, што паўстаюць, нараджаюцца ўнутры чалавека, у адчуваючай рытм прыроды чалавечай псіхіцы. Паэтэса супастаўляе існаванне чалавека з натурай, у ёй шукае адказу: *„У люстры вады /Я бачу тваё вочы-васількі /.../ Але не бачу твайго сэрца“.*

Прырода, з якой атоесамлівае паэтэса сваё жыццё, пачынае, здаецца, мімавольна паглынаць існаванне, падпарадкоўваць яго „ўласнаму ўміранню“ і паўставанню нанава. Артымовіч не намагаецца захапляцца вясковасцю, але адкрывае сябе ў візіях, снах, філасофскіх і этычных ісцінах, чысціні пачуццяў, якія праяўляюцца ва ўз'яднанні з рытмам прыроды. Алегорыя вобразаў, выкліканая паэтэсай, наслойваецца на нарастаючы ў пазнейшых вершах непакой, неадступную візію смерці або няспыннага ўмірання. Час перастаў спаўняць ролю рытмічнага гадзінніка, ён ператварыўся ў няўхільны прысуд. Успомнены раней паралелізм у вершах з міфам Ікара, атрымоўвае цяпер паўнейшае, глыбейшае выяўленне, хоць бы ў вобразе птушкі, лёс якой, нарэшце, споўніўся:

*Яна*
*Так далёка ад сонца...*
*Яна*
*Так блізка да зямлі...*

Гэты верш, здаецца, змяняе ўстаноўлены шаблон: уяўная банальнасць апісання птушкі, якая спалучае ў сабе і неба і зямлю, стварае ў гэтай паэзіі своеасаблівы Космас. З гэтага моманту паэтэса можа ўжо гаварыць поўным голасам, не толькі выкарыстоўваючы элементы, вынікаючыя з культуры, і таксама настолькі поўным, што яе ўнутранае, паэтычнае „я“, вырастае ў прыклад місіі творцы *„Магу табе падарыць /кропельку расы/ Магу памаляваць тваё цёмнае неба“*. Такія ж выказванні знаходзім і ў іншых вершах Артымовіч, багатых параўнаннямі, такімі, як: карэнні — зямля, сонца — словы і г.д. Гэтая сістэма — не толькі пантэістычная цэласнасць, гэта перш за ўсё нязменнае імкненне да недасяжнай Аркадыі, нягледзячы на магчымасць рэканструяваць яе вершам у створаным Космасе.

Прыгадайма яшчэ адзін верш, патрасаючы эратычны вобраз, збудаваны з элементаў, даўно забытых у паэзіі. Верш пра чалавека, які ахвяроўваючы сваё каханне, забраў яго плод:



Н. Артымовіч.

Фота В. Рудчыка.

*Праплыла па вячэрнім небе*
*Аднакрылая птушка*
*Праспяваў за маім акном*
*Самотны вецер.*
*Незнаёмы падарыў мне сёння*
*Дзевяцімесячны каляндар*
*...... без вясны .....*

Ад гэтага часу ў паэзіі Артымовіч, у яе этычным краявідзе наступае паварот да песімістычных вобразаў у сваіх колерах і неймаверна знішчаных. Апакаліптычная візія чалавека і яго асяроддзя прымушае паэтэсу адмаўляцца ад *„колераў, прыроджаных рэчам“* на карысць іменна сімволікі колераў праміпання, як быццам з аднятым колерам вымаецца і іх змест. Хоць у гэтай паэзіі, поўнай псіхічнага напружання і супярэчнасцей, народжаных нахабнасцю рэчаіснасці, якую стварыў чалавек, знайшоўся выхад у паэзію анірычную (сонную), што падпарадкавана цалкам іншым правілам, дзе рэчы даўно неіснуючыя можна рэканструяваць у новае існаванне, аздобленае абалонкай сюррэалістычных фантасмагорый. У гэтым новым існаванні імкнецца паэтэса знайсці ключ да свету. Артымовіч піша: *„Мая ноч /Цудоўная/ Вялікая /... Яна — магазін/ З прошлым сардэчным смехам /...Усё тут наша/ Няма купцоў /І куплюючых“*. У такіх казачных абставінах усё магло здарыцца, як у сне, які падпарадкаваны невядомым правілам. Адсюль бяруцца вяртанні да месца нараджэння, да маці, як быццам гэта дае магчымасць, паводле меркавання Тадэуша Новака, абнавіць пупавіну з дзяцінствам, якую, па сутнасці, ніхто не ў сілах разарваць. Верш, прысвечаны Бельску Падляшскаму, выказаны ў такой постаці (малой кроплі дажджу — у Плютовіча — горад маленькі, як сляза), якая паяўляецца ў асабліва крытычных момантах, дазваляючы выявіць гэтым самым уласную, і не толькі, паэтычную асабовасць.

Самыя новыя вершы Артымовіч — па форме далёкія ад яе дэбюту — на першы погляд здаюцца асацыяцыяй уяўленняў, падпарадкаваных аднак ірацыянальнаму наказу, што ідзе знутры. Недзе ў глыбіні душы паэтэсы нараджаецца драма, якую яна перажывае пад постаццю сну, драма, афарбаваная нечаканымі асацыяцыямі, дазваляючая нам увайсці ў зачараваны і зменены „натхненнем“ свет. Пытанні, што памнажаюцца ў гэтай паэзіі, паказваюць на недарэчнасць чалавечага існавання. Паэтэса ў адным з вершаў пытаецца: *„гэта ты? / гэта ты?“*... У анірычнай паэзіі Артымовіч замест дзвярэй вырастае сцяна, грозная тым больш, бо безадказная па сэнсу.

Парафразуючы выслоўе, што здараецца быць паэтам..., неабходна сцвердзіць без усялякай маскіроўкі наступнае: Артымовіч — гэта паэтэса, сучасная беларуская паэтэса, след якой астанецца ў літаратуры; уносіць ён у гэтую літаратуру новую праблематыку, што знаходзіцца ў яе паэтычных выказваннях...

**Янка Леанчук**




ФОТА-РЭТРА

*Беласток да першай сусветнай вайны. Базарная вуліца. Цяпер Рынак Касцюшкі. Рэпрадукцыя А. Здрадоўскага.*

## З народных ГАВОРАК

**застуваті** — засланяць святло. Як ты пішэш, то до окна бы обэрнувся, а то сам собіе застуеш. Одыді с свіетла і нэ застуй, а то став, як свіэчка.

**настрэнчыті** — нараіць. Адносіцца гэта толькі і выключна да людзей. Прыкладна, нараіць некаму такога ці іншага майстра. А мніэ Іван доброго кушніэра настрэнчыв. От зграбно кожух пошыв. Настрэнч добру діэвчыну, то буду жэнітіся.

**ніцьма** — ляжаць або спаць на жываце. От прывык, як ляжэ ніцьма то так і проспіт ціэлу нуоч.

**нэ вкануті** — доўгі час не ведаць. Ужэ такі горды зробівся, як до города выйіхаў, што пув року пройшло і нэ вканув навэт. Ты загніэвався чы што, бо нэ вканэш ніколі.

**нэ наздрытіся** — такі смурод, што ўвайсці нельга. Ну што тут такое? Такі сморуод, што нэ наздрытіся просто.

*(Вёска Кожына, гміна Бельск)*

КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ



## ЯК РЫГОРА ПАКАРАЛІ

Даўным-даўно, дзе цягнікі спынялі свой ход, жыў там чыгуначнік Рыгорка. Салідны з яго быў рабацяга. Заўсёды пра працу дбаў, бо казаў, што гэта яго хлеб. Хацеў быць прыкладам для іншых і таму сваіх калег па рабоце заахвочваў да саліднай працы. Нават прабаваў спаборніцтва ўвесці на станцыі. Ды начальства не паслухала. І хоць вярхушка крывым вокам неаднойчы глядзела на Рыгора, ён заўсёды паўтараў: — Няхай робяць сабе што хочуць, абы мяне не чапалі.

І так цягнулася гадамі. Раптам сталася тое, што Рыгору і ў сне не снілася. Яго пакаралі. І пакаралі без прычыны. А было гэта так.

Пайшоў аднойчы Рыгор на начную службу. Як заўсёды, так і зараз работы пільнаваў, як вока ў галаве. Не спаў у шапку, як кажуць. Усе справы службовыя афармлены былі на „выдатна“. І хоць сон лез на вочы, быццам нейкая мара, ён сядзеў і раздумваў. Аб чым, цяжка сказаць.

Пасля поўначы ў Рыгораву кантору ўсунуўся дзяржаўны наглядчык. Не здзівіла гэта Рыгора. Наглядчык часценька заглядаў на станцыю. А што ўсё на рабоце было афармлена акуратна, Рыгор далей сядзеў каля стала ў той самай пазіцыі. Але госць зайшоў сюды з намерам. Спачатку гаварыў далікатна, як павінен гаварыць чалавек з чалавекам. Але хутка вецер падзьмуў з другога боку. Наглядчык выразна чапляўся без прычыны. Нават Рыгору сказаў, што работы не пільнуе, а разлажыўся спаць. Калі пачуў тое наш рабацяга, крывым вокам глянуў на ўрадніка. І той яму шпарыць:

— Чаго так дурна глядзіш! Пачакай, дабяруся і да тваёй скуры...

І дабраўся. А даведаўся аб гэтым Рыгор неўзабаве, з кантрольнага пратакола, які прыслаў наглядчык начальніку станцыі.

Ад таго моманту пачалася сапраўдная карусель. Пан начальнік чытаў вынікі пратакола ўсім рабочым, а Рыгору не было куды вачэй падзець. Гэта ж сорам, ён спаў на рабоце...

Ды што мог зрабіць Рыгорка, каб скінуць з сябе паклёп? Надумаў бараніцца. У службовым расследаванні ўсё падрабязна напісаў, а начальніку сказаў проста: — Гэта хлусня, сведкі пацвердзяць, як было...

А пан начальнік, разлажыўшы рукі, кажа Рыгору: — Я наглядчыку веру, а не табе. Ён пастаўлены на гэта.

Нічога Рыгорка не даведаўся. Пайшоў шукаць далей справядлівасці. А калі і там насмешліва заявілі, што вераць наглядчыку, а не яму, надумаў паехаць да самога губернатара. Пан губернатар уважліва выслухаў Рыгора, а калі той скончыў, спытаў яго:

— Дык чаго хочаце ад мяне?

А Рыгор кажа: — Хачу каб пры вас і ў маёй прысутнасці пан наглядчык сказаў, як сапраўды ў тую ноч было.

— Гэта можна, — сказаў губернатар і нешта запісаў на пратаколе.

Рыгорка вяртаўся дамоў з надзеяй ў сэрцы. Пачаў чакаць заяўлення з губерні. Прайшоў тыдзень, два. Мінуў месяц. Усё сціхла. Пачала занікаць Рыгорава надзея на справядлівае вырашэнне справы.

Крыўдна стала чалавеку. Крыўдна за тое, што ніхто не цаніў яго добрасумленнай працы, яго амбітных пачуццяў. І да гэтага часу ў сэрцы носіць крыўду наш рабацяга. А калі нехта пачне гаварыць аб добрасумленнасці, з агідай адварочваецца ў другі бок, бо яму чыноўнікі ўспамінаюцца.

**Кастусь Млынарскі**

(Працяг са стар. 1)

## ШАНЦ ДЛЯ АДВАЖНЫХ

Марцэлі Грушэўскі, чалавек з вышэйшай адукацыяй, як сам кажа, прайшоў шлях ад пяра да плуга. Цяпер ён гадуе авечак у Кнышыне. Разам з родным братам і дзядуляй заснавалі яны сямейную САГ. Іх суполка толькі што раскручваецца. Пакуль што будуюць супольную (а дакладней кажучы, сямейную) аграмадную аўчарню, якая будзе каштаваць амаль тры мільёны злотых. Многа? Пэўна што многа! Толькі яны не пабаяліся задоўжыцца ў банку аж на такую суму! Ужо цяпер ведаюць, што калі паспяхова разгорнецца ў іх гадоўля, дзяржава даруе ім амаль палавіну гэтай пазыкі. Чаму тады не карыстаць?

Таксама сямейную САГ заснавалі Рымарскія ў гміне Янаў: бацька і два сыны. Разам гадуюць пяць тысяч штук кур-нясушак. Яйкі яны пастаўляюць выключна ў інкубатары.

Тадэуш Невяроўскі з вёскі Андрыянкі ў гміне Боцькі мае за сабой ужо чатырохгадовую практыку супольнага гаспадарання.

— На аснове гэтага вопыту, — сцвярджае ён, — я магу з чыстым сумленнем сказаць, што супольнае гаспадаранне стварае вельмі спрыяльныя шанцы для павышэння ўзроўню жыцця сялян. Мы, для прыкладу, маем абору на 29 дойных кароў. Яе пабудова каштавала нам 800 тысяч злотых. 200 тысяч далі мы самі, а рэшта — гэта пазыка. Затое ў 1976 годзе прадалі мы 50 тысяч літраў малака, а ў наступным 1977 годзе — ужо 62.500 літраў. Гэта столькі, колькі пастаўляе ў злеўню цэлая, сярэдняй велічыні, вёска на Беласточчыне.

Ці трэба больш прыкладаў? Хопіць. Можа яшчэ толькі тры лікі: пад канец мінулага года дзейнічала на Беласточчыне 370 САГ. Іх сярэдні гадавы даход склаў 1.400.000 злотых на адну суполку, але былі і такія сярод іх, якія дабіліся нават 5-мільённага даходу.

Вось шанц для адважных!

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

## А ПАМЯЦЬ ЖЫВЕ...

І яшчэ два ветэраны ў першым шарэнгу харунжых: **Мікалай Юзэфовіч** і **Антон Трахімяк** — абодва з Мілейчыц, абодва воіны Войска Польскага. Мікалай Юзэфовіч — касцюшковец, адзін з першых, якія з'явіліся ў сялецкім лагеры, дзе фарміравалася І Дывізія імя Тадэуша Касцюшкі.

— Вось мая берлінская памятка, — гаворыць ён і паказвае руку з абарванымі пальцамі. — Гэта здарылася ў апошнія гадзіны берлінскага штурму.

Антон Трахімяк ішоў да свабоднай Айчыны праз баі пад Тобрукам і Монтэ Касіна.

Распачаўся мітынг. Начальнік гміны Мікалай Бартнічук і сакратар гміннага камітэта партыі Віталіс Луба выступілі з прамовамі, а Віталіс Ярацэвіч — старшыня гміннага камітэта ФАН — прачытаў пратэст ад імя насельніцтва Мілейчыцкай гміны супроць намераў прадукцыі нейтроннай бомбы. Дэлегацыі ад прадпрыемстваў і ўстаноў усклалі вянкі ля помніка воінам і на гэтым афіцыйная частка была закончана.

Людзі аднак не пакідалі ўзгорка за Мілейчыцамі, не спяшаліся дамоў. Яны спыняліся ля братніх магіл і моўчкі чыталі таблічкі з імёнамі загінуўшых. Часам нейкая бабулька прашаптала малітву за ўпакой, а дзіцё ўсклала невядомаму салдату букецік вясенніх кветак.

Найбольш людзей таўпілася вакол магілы героя Савецкага Саюза Міхаіла Купрыянавіча Чупількі, які загінуў ля вёскі Кузава. У адведкі на яго магілу прыехала аж з Запарожжа яго родная сястра Надзея.

— Вялікае дзякуй польскім сябрам, — гаварыла яна праз слёзы, — за добрую, дбайную памяць аб маім браце.

Ля магілы Мікалая Кужыльнага таксама ў доўгім маўчанні стаяла яго сям'я: падпалкоўнік Іван Кужыльны з жонкай і сынам. Яны прыехалі здалёк, з-за Кіева.

— Я ўжо трэці раз наведваю магілу майго брата, — выступаючы ў час мітынгу, гаварыў палкоўнік Кужыльны. — І як ніхто іншы, ведаю і адчуваю, якой глыбокай і трывалай з'яўляецца наша дружба, бо яна замацаваная братняй крывёю.

З могільніка-маўзалея ўдзельнікі мітынгу вярнуліся ў пасёлак, каб прыняць удзел у канцэрце мастацкай самадзейнасці ў выкананні беларускіх калектываў з Бельска. А вечар моладзь правяла на гульнях.

**В. Рудчык**
Фота аўтара



*Ветэраны.*



*Выступаюць бельскія „Васілёчкі".*

## СКР у ГАРАДЗІСКУ...

Аб'ядноўвае 33 сельскагаспадарчыя гурткі і 1785 членаў. У спулдзельні працуе 113 чалавек: трактарыстаў, механізатараў і будаўнікоў. Займаецца яна вырошчваннем зерневых культур і кораняплодаў, гадоўляй свіней і букатаў, выконваннем паслуг індывідуальным гаспадарам.

У апошнім часе СКР павялічыў шляхам адаптацыі рамонтны цэх, аднавіў сталовую і пачаў рамонт памяшканняў бюро. У вёсцы Тарговіска ўзводзіць букацярню на 700 месц.

Гарадзіская СКР жытам і пшаніцай абсявае 60 гектараў, кукурузай — 80 га, цукровымі буракамі — 14 га і бульбай 12 га. У мінулым годзе прадала яна дзяржаве 152 тоны мяса, 1968 цэнтнераў буракоў, 160 цэнтнераў жыта і пшаніцы, 64 цэнтнеры рапсу.

У раёне абслугоўвання спулдзельні знаходзіцца больш 1660 гаспадарак у 41 вёсцы. Найлепш абслугоўвае сялян пункт механізацыйных паслуг у Сыпнях. СКРаўскі парк сельскагаспадарчых машын гэта: 93 трактары, 6 збожжавых камбайнаў, 37 снопавязалак, 25 малатарняў, 24 бульбакапалкі, 3 сіласакамбайны, 2 камбайны для капання бульбы і іншыя сельскагаспадарчыя машыны.

СКР дапамагае гурткам вясковых гаспадынь (іх 33) у арганізацыі конкурсаў, у вядзенні грамадска-палітычнага абучэння і вясковых дзяцінцаў у час жніва і капання бульбы. Сёлета пяць дзяцінцаў атрымае халадзільнікі, газавыя пліткі і новыя пляцоўкі з адпаведным абсталяваннем для дзіцячых гульняў.

У красавіку гэтага года на сходзе, падсумоўваючым дзейнасць СКР за мінулы 1977 год, выбраныя на вясковых сходах дэлегаты шырока абмяркоўвалі дзейнасць гэтай важнай на вёсцы ўстановы. Калі што крытыкавалі, дык перш за ўсё паслуговую дзейнасць для пасобных сялян і давалі прыклад, як можна дабіцца куды лепшых вынікаў у гэтай вельмі істотнай дзялянцы працы СКРаўцаў. Шмат цёплых слоў можна было пачуць у адрас паляводаў, якім у мінулым годзе было асабліва цяжка ўправіцца з уборкай збожжавых (давялося з-за непагадзі касіць уручную косамі) і кораняплодаў. Капаць бульбу прыйшла школьная моладзь. Без іх дапамогі з-за дрэннага надвор'я не ўдалося б сабраць ураджай.

Сёлета паляводы намераны сабраць па 330 цэнтнераў буракоў з кожнага гектара пасеваў, значна больш жыта і пшаніцы. Прыняты меры дзеля лепшага, больш рацыянальнага выкарыстоўвання трактараў ды ўсяго прычапнога і навяснога інвентара.

За актыўную і плённую працу аплачваемым рабочым і грамадскім дзеячам дырэктар СКР у Гарадзіску — Станіслаў Батар уручыў дыпломы і падзякаваў ад імя ўсяго праўлення. Дыпломы, кветкі і шчырую падзяку атрымалі: рабочы калектыў пункта механізацыйных паслуг у Сыпнях, Станіслаў Тварроўскі, Марыя Жэро, Міраслаў Склінда, Чэслаў Марціняк, Эдвард Яшчолт і Юзэф Крынскі.

Перад урачыстым сходам, які адбыўся ў стражацкай рамізе ў Гарадзіску (дарэчы ёсць тут адзіная найбольшая зала ў гміне), з мастацкай часткай выступілі школьнікі. Іх выступленні ўсім вельмі спадабаліся. Былі і песні, і скетчы і танцы. Былі нават спецыяльна на гэтае мерапрыемства падрыхтаваныя песні, напрыклад, пра дырэктара і іншых работнікаў СКР.

**Я. Целушэцкі**

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Юрка Ляшчынскі з VIII б і Міхась Савіцкі з VIII а — найлепшыя матэматыкі ў арлянскай пачатковай школе.*

*Фота М. Шаховіча.*

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

У вясеннім пачыне ў гміне Хорашч удзельнічала 210 дзяўчат і юнакоў. Члены ЛЗС з вёскі Ізбішчы адрамантавалі футбольную пляцоўку. Моладзь з Жуўткаў (42 асобы) добраўпарадкавала пляцоўку для дзіцячых гульняў і правяла рамонт пляцоўкі для сяткоўкі. 30 ЛЗС-аўцаў з вёсак Дзіке і Навасёлкі пасадзілі каля 1 га лесу. 15 спартсменаў са Златарыі выраўналі пляцоўкі для футбольных і валейбольных розыгрышаў.

Моладзь з гміны Янаў навяла належны парадак на прышкольных спартыўных пляцоўках у Янаве, Белавусах, Нававолі і Купліску. Працавала 137 чалавек. Выканалі яны грамадскі пачын вартасцю ў 25 тысяч злотых.

У гміннай мясцовасці Карыцін ЛЗС-аўцы пабудавалі ля футбольнай пляцоўкі лавачкі для балельшчыкаў, новыя вароты і адрамантавалі памяшканне для спартыўных суддзяў (фетравай плітой абабілі сцены і памалявалі іх). Іх грамадскі пачын — у 48 тысяч злотых.

(ця)

## Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА І

Адзін з найвыдатнейшых пісьменнікаў ва ўсёй гісторыі беларускай літаратуры — Якуб Колас увайшоў у нашу пісьмовасць у часы нашаніўскага яе адраджэння. Гаворачы дакладней, быў адным з тварцоў гэтага адраджэння.

Якуб Колас (сапраўднае прозвішча Канстанцін Міцкевіч) нарадзіўся 22 X 1882 года ў засценку Акінчыцы, Мінскага павету.

Бацька паэта Міхал на працягу многіх гадоў выконваў функцыю лесніка ў лясах князя Радзівіла. Значны ўплыў на разумовае развіццё хлапчука аказаў дзядзька Антось, які жыў пры сям'і Міцкевічаў. Дзякуючы яму малады Кастусь увайшоў у незвычайны свет беларускай казкі і пазнаёміўся з многімі вершамі рускіх рамантычных паэтаў. У трынаццатым годзе свайго жыцця даведаўся аб жыцці і творчасці вялікага польскага паэта Міцкевіча.

Дзяцінства Коласа прайшло ў тыповых для тагачаснай беларускай вёскі абставінах. Аднак трэба падкрэсліць, што матэрыяльныя ўмовы жыцця Міцкевічаў былі лепшыя ад побыту грамаднай большасці тагачасных беларускіх сялянскіх сем'яў. Дзякуючы гэтым умовам Міхал Міцкевіч быў у стане вучыць сваіх дзяцей.

Пачаткі школьных ведаў атрымоўваў малы Кастусь дома. У дарэвалюцыйны перыяд была распаўсюджана форма навучання пры дапамозе „дырэктараў" — вандроўных настаўнікаў, веды якіх, як правіла, не прадстаўлялі найвышэйшага ўзроўню. Дзеці Міцкевічаў на працягу пэўнага перыяду карысталіся з дапамогі такога дамашняга настаўніка. У пазнейшы час малады Кастусь вучыўся ў школе. Закончыўшы яе, паступіў у Несвіжскую настаўніцкую семінарыю. Вучыўся ў ёй ад 1898 да 1902 года. Атрымаўшы настаўніцкія правы, распачаў працу ў вясковых школах у Люсіне і Пінкавічах. У гэтых вёсках працаваў Колас ад 1902 да 1906 года.

Апрача настаўніцкіх заняткаў цікавіўся ён грамадскім жыццём. Стараўся ўплываць на тагачасныя палітычныя працэсы і падзеі. У 1906 годзе прыняў ён удзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, які адбыўся ў пачатку ліпеня ў вёсцы Мікалаеўшчына. На з'ездзе была апрацавана радыкальная праграма развіцця ў Беларусі асветы і паляпшэння жыцця настаўнікаў. З'езд быў выкрыты паліцыяй і яго дакументы канфіскаваны. Распачалося доўгае следства, якое вялося асветнымі ўладамі і паліцыяй. У выніку гэтага следства Колас пачаткова быў пераведзены ў другую школу, а пасля пазбаўлены права навучаць дзяцей увогуле. Колас паспрабаваў адкрыць прыватную школу, аднак у 1907 годзе адышоў ад свайго намеру і пачаў працаваць у рэдакцыі „Нашай нівы". Працаваў у ёй да 1908 года. Увесь гэты час вялося следства ў справе ўдзелу ў настаўніцкім з'ездзе, нягледзячы на тое, што некаторыя ўдзельнікі з'езду ўцяклі за мяжу і адтуль прыслалі заявы, у якіх узялі на сябе ўсю адказнасць за арганізацыю і праграму з'езду. У верасні 1908 года Колас быў пастаўлены перад Віленскім судом, як адзін з ініцыятараў з'езду. Эксперт Ермакоў аўтарытэтна пацвердзіў, што почырк пратакола і дэкларацыі з'езду і почырк Коласа той самы. Такім чынам Колас быў суджаны, як аўтар з'ездаўскіх дакументаў. Нягледзячы на тое, што пратакол і дэкларацыя былі напісаны зусім іншым удзельнікам з'езду, суд прыняў пункт гледжання Ермакова.

Бараніў Коласа вядомы тагачасны адвакат Петрусевіч, той самы, які праз многа гадоў бараніў ужо не перад царскім, а польскім санацыйным судом Максіма Танка.

# КАЛІ ЗАКОНЧЫЦЦА ПАБУДОВА?

Да пабудовы вялікага будынка святліцы жыхары Рыбалаў (гміна Заблудаў) прыступілі ў студзені 1973 года. Месца пад яго адвялі ў сярэдзіне вёскі. Для пабудовы скарысталі куплены ў Беластоку драўляны будынак. Святліцу пакрылі, пабудавалі ў ёй падлогу, столь, дзверы і вокны. Тутэйшыя вяскоўцы ўнеслі апрача грамадскай працы добраахвотныя грашовыя ўклады.

На заканчэнне пабудовы гэтага прасторнага аб'екта аднак не хапіла грошай. Узнікла пытанне: як закончыць? Адной толькі фарбы трэба некалькі соцень кілаграмаў, а да таго ж неабходна яшчэ пабудаваць печы, сцены абабіць стружкавай плітой, ды і знадворку святліца не ашалявана. На дадатак выйшла, што майстры дрэнна размясцілі ўнутраныя сцены. Пад цяжарам сабраўшыхся людзей на другім паверсе магла б лопнуць столь. Спатрэбілася новая дакументацыя і каштарыс. Грамадскі камітэт пабудовы намагаецца, каб як мага хутчэй давесці пабудову святліцы да канца. Ён разлічвае на далейшую дзейсную падтрымку і дапамогу гмінных улад у Заблудаве.

Зацікавіліся мы справай заканчэння пабудовы 3 мая гэтага года. Начальнік гміны прасіў лепш спытаць у адказнага за гэтыя справы работніка гміннай установы, які, так сказаць, найбольш „у курсе справы". Ад яго мы даведаліся, што ўсё залежыць, калі будзе зроблена дакументацыя і каштарыс і што зараз гэтая справа ў кампетэнцыі адказнага за пабудову дамоў культуры і святліц работніка аддзела культуры Ваяводскага ўпраўлення. Да яго пазванілі мы 4 мая, і ён паінфармаваў нас, што Бюро праектаў камунальнага будаўніцтва ў Беластоку не падае тэрміну, калі падрыхтуе дакументацыю і ці ўвогуле будзе яна гатова да канца чэрвеня бягучага года, як было дамоўлена.

Варта дадаць, што жыхары Рыбалаў усё ж спадзяюцца, што святліца будзе гатова яшчэ ў гэтым годзе.

**Я. Ц.**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ВЯСНЯНКА
(„Огулька")




*Ой, сама, сама, як ігрушэнька ў полю,*
*ой, німа, німа пажаловаці кому:*
*Баценько й умэр, матуленька нідужа,*
*сестра маленька, а брат на ваенцы служыць.*
*Ой, прыплынь, прыплынь, браточку, за вадою —*
*ой, вазьмі, вазьмі іііій сіротаньку з сабою.*
*— Ой, як ж я маю тую сіротку браці,*
*ой, як ёй Бог даў, ай, так мусіт гараваці.*
*Як мне маладому на вайне ваяваці,*
*так сіротаньцы іііій удома гараваці.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі — Людмілы Панько.



*Расцвіла, прыгажуня... для маёй маці!*
*Фота М. Гайдука.*

# Гісторыя клуба на вуліцы Гурнай

Гайнаўская вуліца Гурная цягнецца ў даўжыню 2 км. Тут жыве многа людзей. Вуліца аддалена ад цэнтра горада на 2 км, і таму жыхары стараюцца адкрыць на сваёй вуліцы святліцу. З такой просьбай і выступілі радныя гарадской рады на пасяджэнні камісіі сельскай гаспадаркі ў сакавіку гэтага года. Справу прадставілі Анатоль Саевіч і Васіль Зенюк.

Трэба сказаць, што будынак на святліцу на гэтай вуліцы ёсць. У ім змяшчаўся клуб селяніна, які быў уласнасцю ГС. Як аднак ведаем, такі клуб не дае кааператыву ніякага даходу. Таму ГС узяў ды ліквідаваў яго. Выходзячы з памяшкання, ГС забраў адтуль абсталяванне, напрыклад мэблю. Але на дадатак пазнімаў са сцен электрычную праводку і гэтым самым знішчыў увесь будынак.

Праўда, што праводка была ўласнасцю ГС, але праўда і тое, што сарваную інсталяцыю палажылі на склад, і там яна і змарнавалася. Ці не лепш было спісаць яе на страты, а фактычна перадаць у карыстанне жыхароў вуліцы Гурнай?

**Вірскі**

# Прадаўжальнік добрых традыцый

Ён належыць да тых людзей, якія не шкадуюць сваіх намаганняў, каб усё тое, за што яны аднойчы ўзяліся, выйшла як належыцца. І гэта не выпадкова, бо ён усё робіць з сэрцам, не скупіцца з уласнай працай, не шкадуе свайго старання.

Шануюць людзі ва ўсім наваколлі **Мікалая Панфілюка** з Дубіч Царкоўных за яго саліднасць і спагаду да грамадскіх спраў. Ён ужо трынаццаты год працуе лістаношам у раёне вёсак Дубічы, Рудка, Тапаркі і Тафілаўцы. Сваім абавязкам ён лічыць не толькі тэрміновае даручэнне тэлеграмаў, лістоў, газет, пасылак, грашовых пераводаў, але і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці сваёй гміны. Ад яго ўважлівага вока не скрыецца абыякавасць ці нядбайнасць. Дзякуючы яго хадайніцтву, клопатам, карэспандэнцыям у „Ніву" многія недахопы ліквідаваны, выпраўлены недагляды. Але М. Панфілюк не адно чулы на недахопы, ён патрапіць бачыць і высока цаніць тыя перамены на лепшае, што нясպынна наступаюць у жыцці людзей яго родных ваколіц.

Такое заангажаванне ў грамадскія справы, відаць, ужо ў яго крыві. Унаследавана яно ад усяго роду Панфілюкоў. Чатыры дзядзькі М. Панфілюка — Іван, Міхал, Мяфодзій і Фядосій Панфілюкі былі актыўнымі ўдзельнікамі прагрэсіўнага беларускага руху ў міжваенны час і змагаліся ў партызанах у часе акупацыі.

Ахвярным дзеячом Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі быў Мяфодзій Панфілюк. Паліцыя ды агенты дэфензівы амаль што не выходзілі з іх хаты, штодзень ператрасаючы ды перамацваючы ўсё ў хаце, клуні, нават у гнною ў хляве капаліся. Ну і здзекваліся, як толькі маглі. Нават арышт прынаравілі да самага ўрачыстага моманту яго жыцця. Калі ён сабраўся жаніцца, і ўсё ўжо было падрыхтавана да вяселля, напярэдадні шлюбу з'явілася паліцыя, закавала яго ў кайданы і пагнала ў Бельск. У бельскай дэфензіве і беластоцкай турме ён прасядзеў тры гады. У часе вайны дзейнічаў у партызанах. Недзе ў 1943 г. ён быў закінуты з самалёта на Галіччыну і там загінуў пры выкананні спецыяльнага задання. Іншыя Панфілюкі дзейнічалі ў партызанскіх атрадах у ваколіцах Белавежскай пушчы. Гэта яны былі найлепшымі праваднікамі, разведчыкамі і снабжэнцамі для сваіх таварышаў па зброі, і лютымі знішчальнікамі фашыстаў. А калі закончылася вайна, яны ўсе трое сталі ахвярнымі будаўнікамі новага ладу.

Іх пляменнік, Мікалай Панфілюк, патрапіць таксама знайсці час на грамадскую дзейнасць, але не занядбоўвае і сваіх сямейных спраў. Яны разам з жонкай Аняй вядуць гаспадарку, нядаўна пабудавалі прасторны светлы дом. Як заўважае М. Панфілюк: „Дом то, ведаеце, паўстаў з мае лістаношавай торбы ды з карабкоў і кашалёў, што жонка пляце".



М. Панфілюк — ахвярны прапагандыст прэсы. Ён разносіць звыш 400 экземпляраў розных газет і часопісаў, сярод іх 33 экз. „Газеты вспулчэснай", 69 экз. „Аграхіміі", 47 экз. „Пломыка", 28 экз. „Хлопскай дарогі", але рэкорд належыць, безумоўна, нашаму тыднёвіку. **Калі ў мінулым годзе ў яго раёне было 119 падпісчыкаў „Нівы", то ў бягучым годзе іх ужо аж 150!** „Ніву" чытае пільна сам М. Панфілюк, чытае яе ўважліва таксама і яго сын Валодзя — вучань пятага класа.

За папулярызацыю нашага часопіса рэдакцыя ўзнагародзіла Мікалая Панфілюка ручным гадзіннікам.

**(іс)**
Фота аўтара

# МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## МІКАЛАЙ І МІХАСЬ ЮРЧУКІ

Здольныя гэта людзі. Аб гэтым можна пачуць сярод аднавяскоўцаў у Нурцы, што непадалёк Боцек. Ды важна яшчэ і тое, што яны, як браты з вялікай літары, дружна жывуць і пераважна супольна выконваюць многія як гаспадарскія, так і спецыялістычныя работы. На высокім узроўні, згодна з усімі сучасным указаннямі па агратэхніцы яны апрацоўваюць зямлю, атрымоўваючы высокія ўраджаі як на сваіх палях, так і сенажацях. Міхась мае ўласны трактар і шмат іншых сельскагаспадарчых машын. Калі што сапсуецца ў гэтых машынах, сам патрапіць правесці рамонт. У многіх спецыялістычных работах дапамагае яму Мікалай, які таксама мае „залатыя рукі". Пры яго дапамозе Міхась пабудаваў сабе хлявы і хату. Супольна на крайзэзе пілуюць яны дошкі, штыхеты, дровы. Апрача ўсяго гэтага, Мікалай з'яўляецца таксама інсемінатарам. Як правіла, усе здольныя людзі заможна жывуць, маюць добрыя будынкі.

Тэкст і фота

**М. Хмялеўскага**



*Міхась і Мікалай Юрчукі падчас працы на крайзэзе.*

# Кажуць, што...

*У шахматным матчы паміж начальнікам Задрыпчуком і яго падначаленым Задрыпайлам перамог мацнейшы.*

## JACEK LECH



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі**

Галіна Юзвюк з Барысаўкі і Валянціна Касцючук з Клейнік.




Дарагое Сэрцайка! Тры месяцы таму назад хадзіла я з хлопцам, якога вельмі кахала. Ён на год старэйшы за мяне. Аднак маё шчасце было кароткае — ён знайшоў сабе іншую дзяўчыну. Але я не перастала яго кахаць і цяпер. І ён жа, калі хадзіў са мной, гаварыў, што вельмі мяне кахае. Чаму тады адышоў да іншай? Я бачу яго штодзень і сціскаецца маё сэрца. Зайздрошчу той дзяўчыне, з якой ён цяпер ходзіць. Сэрцайка, парай, што рабіць? Ці здабыцца на адвагу і пагаварыць з ім? Я яшчэ маладая, мне 16 год. Часам нават падумаю, што яшчэ знайду сабе хлопца, але мне здаецца, што гэты аднак найлепшы.

Сільвія з С.

Сільвія! І ты, і твой хлопец яшчэ вельмі маладыя. Якраз у такім узросце каханне вельмі гарачае, але і вельмі нетрывалае, зменлівае. Пачуцці хлопца пераліваюцца з аднае дзяўчыны на другую, і тое ж самае дзеецца з дзяўчатамі. І не трэба гэтага кахання браць сур'ёзна, проста: было-сплыло, будзе наступнае. І не горшае ад папярэдняга. А ад мінулага астанецца проста мілы ўспамін.

**Сэрцайка**




Перш за ўсё перасылаю сардэчны паклон працаўнікам „Нівы“, жадаю поспеху ў жыцці і працы я, сталы чытач „Нівы“. А цяпер пару слоў да Астрона. Сніцца мне, што я ару зямлю канём, каб садзіць бульбу. Але аддаў каня бацьку і ён араў, а я прыношу бульбу і пачынаю яе садзіць. Вельмі стараюся, каб паспець пасадзіць, пакуль бацька заарэ, так, каб ён не чакаў.

У другім сне мне прыснілася, што я нібы ў касцёле ці ў палацы. Быццам ксёндз мне мае даць шлюб, але няма нарачонай. Я гавару сястры, што нічога з гэтага не будзе. Калі я прыгледзеўся лепш, то высветлілася, што гэта не была ні мая сястра, ні мая нарачоная, а нейкая дзяўчына з цёмнымі валасамі. Быццам я стаю высока, там, дзе павінен стаяць ксёндз, і кажу, што са шлюбу нічога не выйдзе, бо я не ўзяў шлюбных пярсцёнкаў. А ксёндз сказаў: „І так шлюб табе дам!“. Пачаў ён маліцца і наканец сказаў: „Даю табе шлюб і высвенчваю цябе на рыцара!“ Пасля павіншаваў мяне з паклонам, як высока дастойнага. Дарагі Астрон, што значаць гэтыя мае сны?

Алёша з Беластока

**Алёша з Беластока!** Першы твой сон сведчыць аб тым, што чакае цябе нейкі прыбытак. А гэты прыбытак атрымаеш пры дапамозе бацькі. Адным словам, будзе ён вынікам вашых супольных намаганняў. Што датычыць другога сну, дык усё ж прадвяшчае ён нейкі смутак. Смутак гэты вынікне з невялікай сваркі (шлюб ты браў, але не было ўсё ж нарачонай). Не хвалюйся аднак, пры прыбытку заўсёды вынікаюць нейкія непаразуменні.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У 1972 годзе пасля смерці гаспадара суд сцвердзіў, што правы на спадчыну, якая складаецца з сельскай гаспадаркі, прыслугоўваюць яго жонцы і траім дзецям, па 1/4 частцы кожнаму. Ад 1977 года ў судзе вядзецца справа аб падзеле спадчыны. За час ад 1972 г. двое дзяцей, закончыўшы школу, паступілі на працу ў горадзе і з сельскай гаспадаркай нічога супольнага не маюць. Суд прызнаў гаспадарку сыну, які на гаспадарцы працаваў, маці прысудзіў сплаты ў суме 1/4 часткі вартасці гаспадаркі, а дзецям, якія працуюць у горадзе, не прысудзіў ніякіх сплат. Ці суд мог змяніць правамоцнае рашэнне, якім сцверджаны правы гэтых дваіх дзяцей, а калі ім сплаты не прыслугоўваюць, то ці іх удзелы ў спадчыне павінны прыпасці ўсім астатнім наследнікам, ці толькі некаторым з іх?

АДКАЗ: Сцвярджаючы, хто мае права на спадчыну адносна сельскай гаспадаркі, суд бярэ пад увагу, хто з наследнікаў па закону можа наследаваць гаспадарку. Гэта могуць быць, між іншым, непаўналетнія дзеці памершага. Аднак, калі падчас падзелу спадчыны дзеці, якім прыслугоўваюць правы на спадчыну ў сельскай гаспадарцы, з'яўляюцца ўжо паўналетнімі і не працуюць у сельскай гаспадарцы, згодна з законам не могуць атрымаць сплат. Не значыць гэта, што іх удзелы прыпадаюць астатнім наследнікам. Той, каму прыдзяляецца сельская гаспадарка, мае абавязак сплаціць іншым, якія маюць права на атрыманне гаспадаркі, але ў выніку немагчымасці яе падзелу мусяць атрымаць сплату, але толькі ў частцы, прызнанай рашэннем суда аб сцвярджэнні праводу на спадчыну, значыць, у нашым прыкладзе 1/4 частку вартасці спадчыны.

## Кутак практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ПРЫ ВЕСНАВОЙ СТОМЛЕНАСЦІ

Вясною найбольш адчуваем недахоп вітамінаў, свежага паветра, руху, шпацыраў, ці спорту на свежым паветры. Прымаем ад стомленасці вітаміны і розныя таблеткі. А ці не лепш было б замест іх прынамсі пару разоў у тыдзень выпіць паўшклянкі адной з пададзеных вітамінных мяшанак?! Неабавязкова мусяць быць гэта экзатычныя фрукты (хаця і іх можна выкарыстаць, калі ёсць у продажы), могуць гэта быць нават звычайная кіслая капуста, морква, яблыкі, буракі. Вось рэцэпты.

- Паўшклянкі соку з морквы, паўшклянкі соку з лімона, паўшклянкі соку з памідораў заправіць па смаку соллю і цукрам і добра вымяшаць.
- Паўшклянкі соку з кіслай капусты (не надта салоны), паўшклянкі соку з морквы, паўшклянкі соку з яблыкаў заправіць па смаку.
- Паўшклянкі квасу з буракоў (з часнаком і кменам), паўшклянкі соку з сэлера і паўшклянкі соку з лімона вымяшаць і заправіць соллю і цукрам.
- Паўшклянкі лімоннага соку, паўшклянкі апельсіннага соку і паўшклянкі соку з чорных парэчак вымяшаць, дадаючы па смаку цукар.
- Паўшклянкі соку з грэйпфрута, паўшклянкі соку з морквы, паўшклянкі апельсіннага соку вымяшаць, дадаючы цукар.
- Паўшклянкі лімоннага соку, паўшклянкі соку з памідораў і паўшклянкі соку з сэлера змяшаць з цукрам і соллю.
- Паўшклянкі соку з морквы, паўшклянкі соку з парэчак (могуць быць марожаныя), паўшклянкі соку з грэйпфрута заправіць цукрам і соллю, добра размяшаць.
- Паўшклянкі соку з яблыкаў, паўшклянкі соку з морквы, паўшклянкі лімоннага соку вымяшаць, запраўляючы соллю і цукрам.

**Гаспадыня**

## Этнаграфічнае акенца



*Хатка Галены Шымчук у Шымках.* *Фота М. Шаховіча.*




Каця нічога не адказала. Яна правяла ноч без сну. Хоць старыя і не здаваліся ёй падазронымі, але хто яго ведае, кім яны могуць быць на самай справе.

На наступную раніцу стары Астапчук запрог коней, сам знёс на фурманку Кацін мяшок, паклаў зверху два мяшкі бульбы і сказаў Каці:

— Залазь! Паехалі.

Стары вырашыў ехаць па лёдзе лімана, у аб'езд паліцэйскіх пастоў. Але ўжо надыходзіла вясна. Тонкі лёд не вытрымаў цяжару, і, калі яны былі ўжо далёка ад берага, конь праваліўся ў ваду.

На шчасце, пярэднія колы фурманкі ўтрымаліся на лёдзе. Астапчук, па пояс у вадзе, з дапамогай Каці выцягнуў на лёд каня, а потым фурманку. Адубелы, у мокрым абледзянелым адзенні, ён працягваў шлях, як ні прасіла яго Каця вярнуцца.

Спыніліся ў бліжэйшай вёсцы. Стары прасушыў вопратку ў цёплай хаце і праз некалькі гадзін зноў запрог коней.

Вечарам Каця са сваім цяжкім мяшком зайшла ў дом нумар восем па Граданачальніцкай вуліцы. А стары Астапчук паехаў назад. І ён здзейсніў маленькі подзвіг у гэтай вялікай вайне.

Якое шчасце, што Каця даставіла батарэі і цяпер можна працаваць, не шкадуючы энергіі! Выканаўшы заданне, Каця павінна была адразу пакінуць Адэсу, накіравацца ў Нікалаеў і там, у сваёй цёткі, чакаць прыходу савецкіх часцей. Але падзеі разгортваліся так імкліва, што да таго часу, калі Каця сабралася ў Нікалаеў, усе дарогі былі забіты нямецкімі і румынскімі войскамі, якія адыходзілі да Адэсы. Прабірацца па гэтых дарогах было небяспечна і, акрамя таго, ужо бессэнсоўна.

Міша прапанаваў уладкаваць Кацю ў сваёй маці. Лена паведаміла ў штаб аб сваім рашэнні пакінуць Кацю і атрымала на гэта згоду. Праз некалькі дзён Каця была ўжо легалізавана.

Яна была вельмі актыўным членам групы. Лена даручыла ёй назіраць за рухам варожых войск па Нікалаеўскай дарозе. Каця накіравалася ў шлях і пад вечар дабралася да аднаго з прыдарожных пасёлкаў. Там яна пазнаёмілася з жанчынай, у якой на руках былі дзве маленькія дачкі. Каця сказала ёй, што можа застацца ў яе доме, каб даглядаць яе дзяўчынак, і абяцала, што будзе шмат з імі гуляць. Жанчыну яе прапанова вельмі ўзрадавала.

Так зусім непрыкметная з выгляду дзяўчына стала кантраляваць рух палкоў і дывізій нямецкай арміі.

### Сто восемдзесят тысяч кілаграмаў дынаміту

Дзіўная Пацёмкінская лесвіца. Калі падымаешся па яе шырокіх каменных прыступках, здаецца, што яна скіравана проста ў неба. І ад гэтага пачуцця нельга пазбавіцца, колькі б разоў ты па ёй не ішоў. І яшчэ яна напамінае аб дзяцінстве і аб першым спатканні. І калі ты стаіш на верхняй пляцоўцы, адчуваючы на сабе ўважлівы позірк бронзавага Дзюка, які сціскае скрутак плана Адэсы, і перад табой марская далячынь у бэзавай смузе, тады прыходзяць думкі...

Горад мацнейшы за вайну і няшчасці. Стомлены, з пахмурнымі, пацямнелымі фасадамі дамоў, ён разгладжвае маршчыны пад веснавым сонцам.

Кожны раз, калі Лена вярталася з порта, яна паволі ішла па шумнай Дэрыбасаўскай.

Яшчэ нядаўна, здавалася, Дэрыбасаўская забылася аб вайне. Ды і называлася яна вуліцай Антанеску. Жанчыны ў яркіх шаўковых сукенках, з доўгімі закручанымі валасамі абыходзілі магазіны, а за імі ішлі дзеншчыкі з кошыкамі для пакупак. Сёння гэтыя жанчыны, страціўшы фанабэрыстасць, самі цягаюць у порце па трапах караблёў свае чамаданы. Колькі разоў за апошнія дзесяцігоддзі над Адэсай навісла слова „эвакуацыя“?! І зноў яно мітусіцца па вуліцах. На скрынках і звязках нейкіх спраў, зваленых у кузаў грузавіка, сядзіць немалады чалавек у шэрым кацялку; у сваім незайздросным становішчы ён з усіх сіл імкнецца захаваць рэспектабельнасць. Ды гэта ж яе стары знаёмы „губернатарскі чыноўнік“. Два афіцэры ў форме колеру хакі і ў шапках з вельмі шырокім верхам, што надае ім аперэтачна-ганарлівы выгляд, шалёна стукаюць у зачыненыя дзверы рэстарана „Чорная кошка“. Швейцар з абмяклай барадой, прыадчыніўшы дзверы, крычыць:

— Панове! Рэстаран закрыт! Эвакуацыя!..

Дайшоўшы да канца Дэрыбасаўскай, Лена спынілася. На круглай тумбе, побач з парванай афішай, якая расказвала, што ў тэатры Васіля Вронскага адбудзецца прэм'ера-бенефіс артыста Мікалая Сяргеевіча Фалеева, камедыя-фарс „Ні хвіліны спакою“, — крыва наклеена надрукаваная на грубай абгортачнай паперы ваенная зводка нямецкага камандавання, у якой гаворыцца аб новых перамогах. Але ніхто не спыняецца! Пажар у нафтагавані, які палаў усю ноч, выбухі цыстэрнаў з бензінам, як артылерыйская кананада, не давалі гораду заснуць.

І ўсё ж Адэса заставалася прыгожай. Платаны з чорнымі вузлаватымі галінамі, здавалася, шырока раскінулі рукі і глыбока ўдыхаюць цёплы марскі вецер. Хутка на горад абрушыцца першы вясновы дождж, і тады ўжо зусім бліз ка лета...

(Працяг будзе)

# ПЕРАХАПІЎ

Калі я падышоў да чаргі з апельсінамі, жонка мая ўжо стаяла каля саменькай прадаўшчыцы. Як кожны зрабіў бы на маім месцы, я прыстроіўся да сваёй палавіны.

— А гэта хто яшчэ такі? — адразу ж зацікавіліся ў чарзе.

— Муж, — растлумачыла жонка.

— Зразумела, што муж, толькі... чый?

— Мой, мой, — пераконвала жонка. — Чый жа яшчэ!

— Нешта не падобна...

— Вам што, пашпарт паказаць? Дык я з сабой не прыхапіў, — разлаваўся я.

— Навошта пашпарт? І так бачым, — упікнула нейкая бабулька.

— Што бачыце?

— Што ты не яе муж.

— Не яе? Калі ласка! — імгненна знайшоў я выйсце і пачаў цалаваць жонку. — Ну, як? Бачыце? Што ты, старая, цяпер скажаш?

— А тое і скажу, што палюбоўнік ты... Так жонку не цалуюць.

— Кінь, хлопец, дурэць, — паблажліва сказаў нейкі дзядзька. — Мы не маленькія.

У чарзе засмяяліся. Але больш мяне не чапалі. Відаць, аціналі знаходлівасць. І стараннасць таксама. Я сапраўды даўно так не цалаваў сваю жонку...

**Сцяпан Брылякоў**



— *Ану, не рабі халтуры, ты не на прадпрыемстве!..*

### АДНО РАБІ

Аднойчы гаспадар і найміт касілі ячмень. Найміт ужо і змарыўся, а гаспадар не дае адпачыць. Ажно ўбачыў найміт, што валы пасуцца ў ячмені. Кажа:

— Гаспадар, я пайду валоў выганю!

— Адно рабі — касі! — гаспадар яму.

Вось селі абедаць. А валы зноў пайшлі ў ячмень. Гаспадар кажа:

— Ідзі, Ахрым, валоў выгані з ячменю!

— Адно рабі — еш! — адказаў Ахрым.



**Сем разоў адмерай — адзін раз адрэж. Але ён не мераў і не рэзаў, а браў цалкам.**

# НІЎКА



*Падпрылаваачны пераход для сяброў.*

### НА ДАПАМОГУ

У карчме раптам раздаўся крык Кастуся:

— На дапамогу!

— Што здарылася? — спытаў карчмар.

— Я хачу, каб хто-небудзь памог мне разрэзаць гэту катлету.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Вы не маеце ніякага вопыту ў гэтай працы, чаму ж вы просіце такую вялікую зарплату?

— Таму, што праца тым цяжэйшая, чым менш у ёй разумееш!

*

— З тых пор, як Джэйм разбагацеў, ён стаў страшным снобам.

— У чым гэта выяўляецца?

— Ды хоць бы ў тым, што ён адмаўляецца ехаць у тым жа аўтамабілі, што і яго шафёр!

*

— Як мы пакрыем убыткі? — пытае прэзідэнт кампаніі на сходзе рады дырэктараў.

— Пры дапамозе атраманту, — адказаў адзін з прысутных.

### ЯКІ ПОРАХ МАЦНЕЙШЫ

Паляўнічы да паляўнічага:

— Ты якім порахам нарыхтоўваеш патроны на дзіка?

— Дымным.

— Ён што, мацнейшы за бяздымны?

— Не. За дымам, як ты ведаеш, нічога не відаць. А пакуль ён рассеецца, можна ўлезці на дрэва.

### ПАЗАЙЗДРОСЦІЎ

— Здароў, Цімох! Курыць маеш?

— На, закуры...

— З фільтрам у цябе? Слабата... І што гэта за тытунь пайшоў? Вось раней быў тытунь! Ты непата, Цімох, кашляеш? Прастудзіўся? Якая цяпер прастуда?! Вось раней была прастуда!

## МІНІВЕРШЫ

### ЧУЦЦЁ

Прадаўца ён зразумеў —
І, што трэба, зразу меў.

**І. Курбека**

### ПЕВЕНЬ У ЗДЗІЎЛЕННІ

Хваліўся курыцы певень
малады:
— Здзіўляюся і сам,
чаму ўсё так здараецца:
Як толькі крыкну раніцай
— заўжды
Адразу нават сонца
прачынаецца.

**М. Мінчанка**

### САБАКА

Ці бегае вакол двара,
Ці на ланцугу прывязаны,
Ці ў будцы мірна спіць —
Сабачы рот ніколі не
завязаны:
Набрэша за нішто і можа за
нішто ўкусіць.

**І. Кухараў**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Яўгена Шпілько з Храбалоў змяшчаем песню*

## Kominiarz Johny

z repertuaru zespołów: „Blues and Rock" Wojciecha Skowrońskiego i „Bractwo Kurkowe 1791"

słowa: Tadeusz Rzymski

muzyka: Marek Sewen

W miasteczku Knox pewnego dnia
zdarzyła się szczęśliwa historia ta:
Do Mary Lou przyjechał ktoś,
na g'owie miał cylinder, jak wytworny gość.
A kiedy Johny pod próg zaglądał,
tam zauważył złotej żyły ślad.
I od tej pory już inaczej świat wygląda,
prócz dziewczyny jeszcze wielką forsę ma!
I od tej pory kominiarza każdy wygląda,
za guzik chwyta, bo to dobry znak.
A jeśli ty pewnego dnia
będziesz chciał znaleźć szczęście
radę ci dam:
Gdy chcesz je mieć, naucz się żyć,
lecz na widok kominiarza za guzik chwyć.
Błyszczących rząd guzików miał,
to był kominiarz Johny, chłopak na schwał.
Gdy dawał Lou kosz pełen bzu,
oberwał mu się guzik, pod próg upadł mu.





— *Вось ваша прамова. Тое, што вы чытаеце — гэта меню!*

### ЗАГАРЭЎ

Сустрэліся двое задрыпанцаў. Адзін пытае:

— Дзе ты быў, што так загарэў?

— Нідзе, — адказвае другі. — Проста не мог знайсці раніцай мыла.

### ЭЛАЧКА

Элачка пытае ў сваёй мамы:

— Ці можа дзяўчынка дазволіць хлопчыку, які прыйшоў да яе на першую сустрэчу, зрабіць за яе хатняе заданне?

### АДМАЛОДЖАНАЯ

Размаўляюць дзве пажылыя задрыпанкі.

— З кожным годам мне даюць менш і менш гадоў, — кажа адна.

— Дык ты хутка дзеўкай станеш — адказвае другая.

### КАБ НЕ ВЕДАЎ

— Ты смелы? — пытае Цішка ў Колі.

— Смелы, — адказвае той.

— То чаму ж ты зайца спалохаўся, калі мы ў лес хадзілі?

—Дык я ж не ведаў, што гэта заяц.



*Чаго ў спорце не бывае!*

# КУРЁЗЫ

### АЎТАРЫТЭТНЫ ПРЫКЛАД

У апошнія гады сур'ёзныя людзі ў ЗША ўсё часцей выказваюць заклапочанасць тым, што юнакі і дзяўчаты, якія набываюць атэстаты і дыпломы аб сярэдняй і вышэйшай адукацыі, застаюцца непісьменнымі. Яны кепска адчуваюць сябе на рабоце, прыносяць многа клопатаў калегам па працы. Не выпадкова пачалі стварацца гурткі і іншыя таварыствы па барацьбе з непісьменнасцю.

Вядзецца гэтая барацьба і ў сценах Карнельскага універсітэта ў штаце Нью-Йорк. Узначаліць гэтую справу даручылі дэкану літаратурнага факультэта Роберту Фарэлу. „А каму ж яшчэ? — разважылі калегі. — Яму, як кажуць, і карты ў рукі".

Правільнасць гэтага рашэння неўзабаве пацвердзілася жыццём. Роберт Фарэл горача ўзяўся за работу, упарта адстойваючы неабходнасць барацьбы з непісьменнасцю ва універсітэце. Ён вёў палеміку аднолькава горача і вусна і пісьмова. І калі напісаў пісьмо з гэтай нагоды ў рэдакцыю мясцовай газеты, то ў яго ўласнаручным лісце аказалася столькі граматычных памылак, што іншыя сказы нават зразумець было немагчыма. Тут ужо нават самым заядлым працаўнікам праграмы па ліквідацыі непісьменнасці ва універсітэце стала ясна, што яны дарэмна ломяць коп'і, даказваючы непатрэбнасць барацьбы з непісьменнасцю.



**Ужываючы зло, не злоўжывай!**